

**ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.**

На выстауцэ насеньня у Вільні у лютым 1913 г. „Саха“ за стацьі аб насеньнях дастала

**СРЭБНУЮ МЭДАЛЬ.**

Падпісная цана на 1 год 1 р. 20 кап. на 6 месяцоу 60 кап., за перамену адрэсу 20 кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр.

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсца у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам 40 к., за тэкстам 20 к. За разсылку рэклям пры месячніку вагой да 2 лотоу 7 руб. ад тысячы

**Цэна асобнага нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

Адрэс рэдакціі: Мінск Александроуская 25.

# МІНСКІ
# Сындыкат Сельскай Гаспадаркі
**аддзяленьня у ПІНСКУ і ОРШЫ.**

ПРАДАЕЦЬ ШТУЧНЫЕ ГНАІ (ПАРАШКІ).

Тамасоўка загранічнай маркі „Альбэрт“, альбо „Звезда“ за 6-ці пудовымех—распускаючагося фасфорнага квасу:

| 13 прац. | 14 прац. | 15 прац. | 16 прац. | 17 прац. | 18 прац. |
|---|---|---|---|---|---|
| 2 р. 35 к. | 2 р. 45 к. | 2 р. 55 к. | 2 р. 65 к. | 2 р. 75 к. | 2 р. 85 к. |

у Лібаве (франко)
у Мінску „ на мэх 60 к. даражэй.

| Супэрфосфат | ад 13 да 15% | ад 18 да 20% | ад 20 да 22%. |
|---|---|---|---|
| у Лібаве . . . | 2 р. 75 к. | — | 3 р. 70 к. |
| у Мінску . . . | 3 р. 25 к. | 3 р. 80 к. | 4 р. 20 к. |
| на ст. атрыманьня | 3 р. 10 к. | 3 р. 64 к. | 4 р. 05 к. |

Каініт
у Лібаве (франко) 1 р. 90 к.
у Мінску „ 2 р. 50 к.

| Калійная соль | 30 прац. | 40 прац. |
|---|---|---|
| у Лібаве . . . . | 4 р. 10 к. | 4 р. 35 к. |
| у Мінску . . . . | 4 р. 65 к. | 4 р. 90 к. |

| Чылійская сялітра 14—16% азоту за 1 пуд | Нарвежская сялітра за 1 пуд |
|---|---|
| у Лібаве . . . 1 р. 80 к. | у Мінску . . . 1 р. 65 к. |
| у Мінску . . . 1 р. 95 к. | |

Гіпс для гнаеньня палёў у Куртэнгофе на пуды 16 к. 1 пуд; вагонамі—15 к. 1 пуд.

Хто выпісываець парашкі, павінен выслаць трэцьцю часць грошэй у Сындыкат, а на астальные грошы наложыцца плата для выкупу тавару на станціі.

Трэба акуратна напісаць *на якую станцію ж. д.* выслаць тавар і праз якую *почту* выслаць дублікат.

*Рабіце заказы на тавар, каб на пару дастаць.*

*Сындыкат прадаець* на насеньня лепшые гатункі збожа і другіх сельска-гаспадарскіх расьлін.

*Сындыкат* купляець канюшыну, віку, збожа і др., хто хочэ прадаць—ніхай высылаець пробы у крэпкім паперным мяшэчку; за 2 кап. можна выслаць 4 лоты.

Хто прывозіць у сындыкат канюшыну, сындыкат купляець ад 1 пуда.

Мінск, электро-тип. Н. М. Нахумова.

Год III—1914. Красавік. 22-я кніжка.

# САХА

ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

## Пладазьмен.

### Праект № 4.

Некаторые с паміж нашых гаспадароў хацелі б перайсьці с сваей старадаўнай трохпалёўкі на пладазьмен, але баяцца тэй путаніны, якая можэ, як ім здаецца, пры гэтым здарыцца.

Тымчасам ніякай путаніны німа, калі перайсьці с трохпалёўкі на 6-ці палёвую гаспадарку павэдлуг гэтай табліцы.

| | Палеткі | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Трохпалёўка | | Жыта | | Ярына | | Папар | |
| Шасьціпалёвы пладазьмен. | 1-ы год | Бульба на поў гною | Авес с канюшынай | Канюшына | Папар | Жыта | Жыта на поў гною |
| | 2-гі год | Авес с канюшынай | Канюшына | Жыта на поў гною | Жыта | Бульба на поў гною | Выка |
| | 3-і год | Канюшына | Жыта на поў гною | Выка | Бульба на поў гною | Авес с канюшынай | Жыта |
| | 4-ы год | Жыта на поў гною | Выка | Жыта | Авес с канюшынай | Канюшына | Бульба на поў гною |
| | 5-ы год | Выка | Жыта | Бульба на поў гною | Канюшына | Жыта на поў гною | Авес с канюшынай |
| | 6-ы год | Жыта | Бульба на поў гною | Авес с канюшынай | Жыта на поў гною | Выка | Канюшына |

На гэтай табліцы ў першым гаду мы бачым палеткі, падзеляные толькі па тры зьмены: жыта, ярына і папар. Гэта і ёсьць наша цяперашняя трохпалёўка.

З другога году, каб перайсьці на 6-ці палёвую гаспадарку, мы павінны кожны з нашых трох палеткаў падзяліць па палове— тады выйдзе 6 палеткаў, на каторых парадак засеваў і павіненісьці такі, як паказана на табліцы.

С першага году, калі мы ўжо к налецьцю манімся перайсьці на пладазьмен, трэба ў ярынным полі—на лепшай яго палове ўсеяць канюшыну. Другая палова застанецца покуль што пад папарам. Але ўжо ў дальшые годы неабсеянага папару пакідаць не варта.

А дзеля таго, што пустога кавалку зямлі ня будзе, для скаціны трэба так нарыхтаваць корму на зіму, каб яго хапіло ажно пад канец маю, а тады ўжо можна будзе с пачатку прыпасываць на частцы канюшыны, а пасьля прыкормліваць кошанкай з выкі.

Выку—трэба старацца ўсеяць як найраней, каб і сабраць яе загадзя, бо інакш можэм прыпозьніцца с сяўбой жыта. Трэба-ж памятаваць, што зааранае поле пад жыта павінна адлежыцца, а на гэта трэба часу ня менш двух тыдняў.

Апрача таго ўважаць, каб ўсё насеньне было як найлепшае і найчысьцейшае.

Бульба, каторая здаўна садзіцца на адным і тым самым мейсцы—вырадзілася. Каб паправіць яе ўраджай, трэба завесьці новые гатункі, як напрыклад: Сілезія, або Вольтман, каторые і смакам добрые і бочак 20 на дзесянціну дадуць лішніцы.

Пад бульбу на цяжэйшых грунтах—трэба 2 разы зааранць з восені: цершы раз зараз па зборцы жыта—плыткавата, а другі раз—перад зімой—зааранць глыбей.

Садзючы бульбу зважаць, каб не класьці яе на цьвёрдую разору, а ня мягкую узрушаную землю.

Абараць бульбу некалькі разоў, каб вышэй яе абсыпаць зямлёй.

Бульбяньніку не жаць, покуль саўсім не атцьвіце.

Не даваць жывёле трушанкі, а сечку, бо яна шмат спарней.

Памятаваць, што рагатая скаціна не баіцца лішне дробнай сечкі, а ў каня ад такога корму могуць падпасьці колькі.

**Ю. Г.**

# ЛУБІН.

Кожны гаспадар ведае добра, што калі не гнаіць поля, то яно перэстане радзіць збожа. Каб мець добры ураджай, трэба хоць час—ад—часу зямлю падгноіваць. Сам грунт бывае найчасьцей неаднаковы: на адным кавалку гной трывае праз даўжэйшы час, на другім—сіла яго хутка прападае. Калі палетак гнаіць хоць бы праз шэсьць гадоў, то ўсё-ж такі, знак такі—сякі будзе; гноючы праз чатыры гады, або ешчэ часьцей—ураджаі, разумеецца, будуць лепшые. Але ў нашых гаспадарках найчасьцей трапляецца, што поле гноіцца вельмі рэдка, а іншые кавалкі і саўсім не спатыкаюцца з гноем.

Прычыны гэтаму бываюць рожные: далёка параскіданы кавалкі поля, куды з гноем трудна і дабрацца, а ешчэ часьцей—нехват самога гною. Каб пакрыць гэты недастатак гною, рупные гаспадары—практыкі знайшлі іншые спосабы падгнаўляць сваю зямлю.

### Чым можна замяніць гной.

Гаспадаркі, ў каторых мала корму—мала і жывёлы; дзе мала жывёлы, там скупа і гною. Каб ня сеяць на пустыні, дзе сама работа каштуе даражэй, чым варт слабы ўраджай, гаспадары прыдумалі заменяць гной с хлева такімі расьлінамі, што калі іх у самым росьце—зялёнымі заараць, то збожа пасьля іх родзіць як і на гнаі. Аднак, ня кожная расьліна прыдатна для заворываньня мест гною; робючы пробы з рожным збожам, перэканаліся, што толькі расьліны матыльковые—гарошкавые, як напр.: гарох, выка, сэрадэля, лубін, фасоля і т. п. могуць сабой замяніць гной.

Але і паміж гэтых расьлінаў ня кожная аплачываецца сеяць мест гною: фасоля, люцэрна, або нават гарох—ужо самі па сабе, каб добра узрасьці, вымагаюць гнойнаго, ўраджайнаго грунту; тады як сэрадэля і лубін удаюцца на саўсім нават пустых, дрэнных землях. Ізноў-жэ такіе расьліны, як люцэрна, чы канюшына—вельмі добры корм для жывёлы, дык ужо лепш іх сабраць, скарміць, а тады ўжо гной вазіць на поле с хлева. С сэрадэлі таксама добры корм, але што насеньне яе таннае, заходу нямнога, дык сеюць яе ня толькі на корм, але і на прыараньне т. е. на зялёны гной.

Саўсім іншая справа з лубінам. Сьціблы лубіну сухіе, цьвёрдые, зерняты горкіе, нават могуць зашкодзіць жывёле, калі добра ня ўмеючы прырыхтаваць іх, дык на корм лубін ужываецца

вельмі рэдка; а што расьце ён добра і на горшых пешчаных грунтах і зямлю моцна узбагачывае сваей расьлінай—дзеля гэтаго лубін і сеюць найчасьцей на зялёны гной.

## Гатункі лубіну і на якой зямлі каторы лепш удаецца.

Гатункаў лубіну ёсьць шмат, але на зялёны гной найчасьцей ужываюць с паміж іх толькі два: жоўты—з жоўтымі краскамі і сіні—с сінімі краскамі. Як адзін, так і другі найлепш удаюцца на сярэдняй зямлі. Але, калі прыходзіцца засеваць лягчэйшые землі, ялавіну, дзе гною не асталося ані званьня, або і саўсім там яго ніколі ня было, дзе ўжо ніякое збожа ня хочэ, ды ня можэ радзіць, там трэба сеяць жоўты лубін; ён, як і кожны іншы лубін, вельмі глыбока пушчае свае карэньні у зямлю і там вышуківае сабе вільгаць і патрэбную пажыву.

На лепшай зямлі, на лепшым пяску, на лягчэйшай гліне—ўдаюцца ўсе гатункі лубіну, але найчасьцей сеюць сіні лубін.

На зямлі, у каторай шмат вапны, або дзе падысподам трымаецца вада (на сіпакох)—лубіну сеяць не варта, бо на такіх грунтах ён ніколі ня ўдаецца.

## Як вырабляць ральлю пад насенны лубін і як яго сеяць.

У трыпалёвай гаспадарцы, якая найчасьцей бывае ў нашых вёсках, лубін на насеньне найлепш сеяць у ярынным палетку. Некаторые гаспадары сеюць лубін у папары, але гэта можна рабіць толькі тады, калі ўсе гаспадары вёскі на гэта згоджываюцца, бо як вядома, ўся скаціна вясковая пасецца разам на папары. А нават, каб і ня гэта прашкода, то і так ня вельмі добра сеяць лубін на насеньне ў папары, бо покуль ён дойдзе, покуль яго зьбяруць, зааруць поле, каторае павінна ешчэ і адлежыцъ, то ўжо сеяць жыта будзе пазнавата.

Калі-ж мы пасеем лубін у ярынным палетку, то ня прыдзецца сьпешацца без пары яго зьбіраць, бо к налецьцю будзе на гэтым мейсцы папар.

Ральлю пад лубін трэба заараць ешчэ з восені—глыбакавата*) Вясной—калі земля таго патрабуе, можна ешчэ раз перэараць, хоць на лёгкіх землях не канешна гэта патрэбна, а часам нават можэ быць і шкодна, бо ад другога веснавога ворыва земля вельмі перасыхае.

---

*) Глыбокім араньнем называецца такое, калі баразна бярэцца ня менш, як на 8 цалеў. Той, хто заўсёды араў няглыбока—на якіе 4—6 цалеў, не павінен браць адразу на 8 цал., а толькі з году ў год паглыбляць баразну на 1 цаль, ажно покуль ня дойдзе да 8 цалеў. Калі перайсьці на глыбокую ворку зразу, то дастанем на верх шмат дзікай зямлі, на каторай праз колькі першых гадоў нельга будзе сеяць збожа.

Найлепш сеяць лубін па зімовай ральлі і прыбаранаваць так, каб зерне было прыкрыта на 1/2 —1 цаль зямлёй. Ешчэ можна і так рабіць: сьперша зімовую ральлю пабаранаваць, пасьля разсеяць лубін і ня глыбока яго прыараць. Адным словам, трэба зрабіць так, каб зерняты лубіну былі прыкрыты зямлёй ня глыбей аднаго цалю.

Для сяўбы насеньне лубіну павінна быць здаровае, сухое, бо трэба памятаваць, што ні адно, бадай, насеньне ня псуецца так, як лубін. Абы крыху зерняты падпсаваліся, то сеяць іх ужо нельга, бо храсткоў ня пусьцяць і насеньне прападзе.

Лубін на насеньне трэба сеяць гусьцей, чым на зялёны гной: густы лубін пярвей і раўней пасьпевае, рэдкі—даўжэй расьце і больш пушчае баковых галін. Насеннаго лубіну на дзесянціну выходзе ад 8 да 16 пудоў (шмат залежа ад буйнасьці самых зернятаў). Спачатку лубін расьце вельмі памалу: першые тры тыдні трымаецца каля самай зямлі і праз гэты час рожные шкодные травы, асабліва пырнік і сьвірэпка, лёгка могуць яго заглушыць; дык трэба гэтага не дапушчаць, вырываючы ў час уселякае зяло. Пасьля месяцу лубін ужо пачынае брацца ў сілу і разрастацца так, што ўжо сам глушыць траву. Калі лубін густы, высокі, то ўселякае зяло пад нім гіне і земля пасьля лубіну застаецца чыстая і наадварот: пры слабым разросьце лубіну—земля зарастае травой.

## Як зьбіраць насеньне лубіну.

Зьбіраць насеньне лубіну трэба тады, як прынамсі трэцьцяя часьць яго струкоў пасьпее. Чэкаць—покуль дойдуць усе струкі нельга, бо раньнейшые с паміж іх да тэй пары полушчацца і зерняты высыплюцца на зямлю.

Некаторые гаспадары лубін жнуць, як толькі ісподніе струкі акуратна дойдуць; іншые выбіраюць сьперша толькі тые кусьцікі, што пасьпелі, а зялёные пакідаюць даходзіць. У каго насеннаго лубіну ня многа, а рабочых рук хапае ў хаце, то можна абсморгаць толькі самые струкі лубіну, а сьціблы яго заараць.

Жаць лубін можна на жменькі, або ў невялікіе снапочкі; кладучы лубін, трэба зважаць, каб вярхі яго не лежалі пад слонца, бо тады струкі лубіну раптоўна насыхаюць і лушчацца.

Як толькі лубін акуратна высахне—звозяць яго ў гумно, або складаюць у стагі.

Лепш, разумеецца, калі мейсца хапае—складаць лубін у гумне, тады дождж яго не замачывае, але трэба каб добра быў высушаны. Лубін у стагох намакае ад дажджу і сьнегу; зерняты яго мякнуць і праз гэта лягчэй плясьнеюць, буцьвеюць, дык і менш робяцца абходнымі Дзеля гэтаго лубін у стагох трэба малаціць ажно на вясну перад самай сяўбой, каб даць часу марцоваму ветру добра прасушыць стог, ды каб зерняты ня мелі часу папсавацца.

Лубін, зложэны ў гумне, можна малаціць калі хаця, а найлепей падчас марозу: лягчэй і чысьцей малоціцца.

Насеньне лубіну нельга ссыпаць у тоўстые кучы, а трэба каб'яно лежало тонкім слоям і час ад часу яго перарушываць. Трымаць лубін можна толькі у добра сухім мейсцы. Калі насеньня не шмат, можна яго пассыпаць у невялікіе мяшэчкі і падвесіць пад сталеваньне.

Сярэдні ўраджай лубіну дае з дзесянціны 80—100 пудоў насеньня.

### Лубін на зялены гной.

Найбольшая карысьць з лубіну, калі яго заворываць на гной. У гаспадарках, дзе лубін заворываецца на гной, ураджаі павялічываюцца у тры—чатыры разы проціў даўнейшых. Пасьля лубіну ня толькі ўселякае збожа, але і бульба даюць вялікіе ўраджаі. Хто раз папрабаваў сеяць у сябе лубін—той ужо з нім не разстанецца.

Сьперша лубін сеялі толькі па дварох,—драбнейшые гаспадары ня верылі ў сілу лубіна, але цяпер ужо што раз болей і болей шырыцца сеўба гэтай вельмі карыснай расьліны. Беда толькі па нашых вёсках у тым, што пры шнуровай гаспадарцы, дзе трэцьцяя часьць зямлі валяецца пад пустым папарам на агульную пашу для скаціны—кожны гаспадар—нявольнік сваіх суседзяў і ня можэ распарадзіцца сваей уласнай зямлёй—як бы сам таго хацеў. Пасеяны лубін у вёсцы на папары, найчасьцей саб'юць,—спасьвяць скацінай. Толькі на хутарох—дзе кожны гаспадар сам сабе пан—можна выкарыстаць с кожнаго шматочка зямлі.

### Як заворываць лубін на зялены гной.

Заворываць лубін на гной трэба покуль ён зялёны, калі ўжо мае хоць ешчэ нясьпелые, але вялікіе струкі. Калі лубін добра ўродзіць, яго вельмі трудна гладка заараць, але на ўсё можна знайсьці спосаб.

Каб лягчэй было заворываць лубін, трэба прывязаць ланцуг с правай стараны плуга—адным канцом да дышлю, другім—да ручкі плуга. Аручы, ланцуг гэты падгібае лубін пад барозну і тады ён гладка і лёгка заворываецца. Гэта найлепшы і найлягчэйшы спосаб заворываньня лубіну.

Другі спосаб заворываньня лубіну гэтакі: прымацаваць жалезны прут адным канцом да рагача, чы дышлю плуга і выгнуць прут так, каб ён гнуў сьціблы лубіну пад барозну—пад паліцу.

Так сама добра, калі прывязаць да рагача, чы дышля плуга па сярэдзіне кавалак жалеза, чы калодку якую, каторые будуць гнуць, аручы, лубін иаперад так, што земля добра яго засыпе.

Некаторые гаспадары перад тым, як заворываць лубін, пушчаюць па ім валец, каб лубін прыціснуць да зямлі. Гэты спосаб добры тым, што, аручы, жывёла ня коле сваіх бакоў каля лубінавых струкоў.

### Як вырабляць поле з лубінам.

Пасьля заворанага лубіну ўдаецца добра кожнае збожа, абы толькі ўдаўся сам лубін.

Найчасьцей пасьля лубіну сеюць жыта, авес, або садзюць бульбу.

Па нашых вёсках—пры трохпалёвай гаспадарцы—лубін найбольш сеюць з вясны ў папары, а ў восень, заараўшы яго, адсеваюць жытам. На такім полі жыта заўсёды добра ўдаецца і саломай, і ўмалотам. Каб не прыпазьніцца с сяўбой жыта, лубін прыходзіцца заворываць раней—як ён ешчэ красуе, ня чэкаючы струкоў. Такі лубін дае, праўда, менш гною, чым са струкамі, але за тое жыта будзе на пару пасеяна.

Сеяць лубін можна ешчэ двума спосабамі.

Як толькі жыта пачынае красаваць, лубін разсеваюць па версе. Тады жыта ешчэ маладое, дык калі яно крыху і памнецца, сеючы лубін, шкоды вялікай ня будзе—мае яно тады досыць ешчэ сілы падняцца. Разсеяны лубін ляжыць у жыце ня прыкрыты зямлёй праз нейкі час—покуль не намокне і не разбухне, а тады пушчае храсткі і прыжывае. Покуль жыта стаіць, лубін у цяні расьце вельмі памалу, але як толькі пажнецца жыта, ён пачынае хутка разрастацца. Познай восеньню, а калі не упраўка—то і на будучую вясну,—лубін заворываецца і можна пасьля сеяць авес, або садзіць бульбу.

Другі спосаб гэткі, што сеюць лубін тады, як ужо пажнуць жыта. Лубін можна пасеяць па аржоньні і на 1—2 цалі яго прыараць. Або сьперша зааваць пожні няглыбока, пасеяць лубін і забаранаваць. І вось, як лубін падрасьце, або і к налецьцю—вясной зааваць і сеяць ярыну.

Каторы с паміж гэтых спосабоў выбраць—гэта ўжо залежыць ад варункаў пры якіх вядзецца гаспадарка. Трэба толькі зважыць карысьць і ня выгоды с кожнага спосабу.

Калі сеяць лубін на аржоньні, то карысьць будзе ўжо вялікая ў тым, што пожні рана зааруцца—гэта ўсё роўна, як бы палажыў на поле поў гною. Будзе, разумеецца, карысьць і з лубіну, хоць і надта вялікая, бо позна пасеяны, мала будзе мець часу добра разрасьціся.

Усеяўшы лубін у красуячае жыта, ён мае куды больш часу да свайго узросту, а значыцца і большую можэ даць карысьць, толькі беда ў тым, што тут ёсьць крыху рызыкі. Пры такой сяўбе, як вядома, зерне ляжыць на версе—ня прыкрытае зямлёй, дык калі пападзецца пад гэту пару праз даўжэйшы час суш—лубін можэ і саўсім не абыйсьці.

## Лубін як корм.

Апрача карысьці, якую нам дае заараны лубін на гной, трэба ешчэ ведаць нашым гаспадаром, што зернятамі лубіну ня толькі можна, але і вельмі карысна карміць жывёлу.

Зерняты лубіну шмат маюць у сабе пажывы—ня менш, а нават болей, чым авес. Адна беда, што ў гэтых зернятах многа гарчыні і дзеля таго зерне лубіновое нятолькі што не смачное, але і шкоднае.

Аднак ня трудна гэту гарчыню зьніштожыць у лубіне, а тады ўжо ён ня будзе шкодзіць жывёле, а добра сыціць.

Сьперша лубіновае зерне трэба заліць у кадушцы вадой, паставіўшы ў такім мейсцы, куды-б не дабраўся мароз—у сенцах, чы у хлеве—каб зерняты набраклі. Тут трэба ўважаць, каб кадушку толькі да паловы насыпаць зернем, бо як набракнуць, дык зробіцца поўна. Яя толькі зерняты акуратна набракнуць, тады іх трэба варыць у катле праз мінут дваццаць, або і поўгадзіны, каб ажно вада гатавалася. Добра гэта рабіць у парнічку для пашы, але можна і у звычайным катле, або нават у гаршчку. Варыцца лубін на тое, каб бялок, каторы ёсьць у зернятах лубіну—зацьвярдзеў так,—як цьвярдзее бялок у яйку на цьвёрда згатаваным.

Варэнае зерне мочуць у рэчцы, ручайку—адным словам у бягучай вадзе—праз 2 дні, ажно покуль, раскусіўшы зерне, саўсім у нім прападзе гарчыня.

Калі-б мачыць у бягучай вадзе не варэны лубін, то бялок з яго вада ўвесь выпаласкала-б, а як ён зварэны на цьвёрда, дык і застаецца цэлы ў зернятах. А вядомая рэч, што бялок самая пажыўная частка пашы ў кожным корме.

Мачыць лубін у рэчцы найлепей у кошыку з закрываным верхам, толькі ня трэба вельмі поўна насыпаць, бо ў вадзе лубін ешчэ прыбудзе і можэ разарваць кошык.

Як да ўсякай новай пашы, так і да лубіну—жывёла павінна прывыкнуць; дзеля гэтаго—прынамсі спачатку—варта лубін пасыпаць соляй і вотрубамі, каб смачней было.

У гарачы час вымачэны лубін не варта больш трымаць, як два дні, бо ён можэ сплясьнець, а тады робіцца шкодным для жывёлы. Найлепей рабіць запас толькі на два дні.

Зважаючы на тое, што пажывы ў лубіне ня менш, як ў аўсе і што сеяць яго можна на такім полі дзе авес ня можэ радзіць, дык варта заняцца лубінам ня толькі дзеля гною, але і дзеля корму. У нас праз усю восень, зіму і вясну бягучая вада амаль ня ўсюды нойдзецца, дык і з лубіну пры невялікім заходзе можна мець добры корм, каторым можна і каня карміць, і вала ўсыціць, толькі трэба памятаваць заўсёды пакаштаваць вымачаны лубін, каб ня меў ён гарчыні.

### Як купляць насеньне лубіну.

Насенны лубін купляць толькі с пэўных рук: або ў сельска-гаспадарскіх складах, або у знаёмага суседа, бо хоць у гандляроў насеньне і таншае, але можна лёгка так наскочыць, што і зерне, і праца, і земля за дарма прападуць.

Купляючы лубін, трэба некалькі каліў раскусіць: у добрым несеньні сярэдзіна зерняці павінна быць жоўтая, як жаўток у яйку, калі-ж гэта сярэдзіна белая, або прыплесьніўшы, то такі лубін можна толькі ўкінуць у гной.

**Л. Р.**

---

# II-я насенная выстаука у Мінску.

Выстаўка арганізавана Мінскім Таварыствам Сельскай Гаспадаркі.

На гэту выстаўку—кірмаш з дзесятак гаспадароў прывезлі сваё збожа розных гатункаў, паміж каторых было шмат цікаўных.

Ольгерд Сьвіда паказаў простае мейсцовае жыта, і тут—жэ—побач з нім тое самае жыта, але ўжо палепшанае: зерне яго бялейшае і куды буйнейшае.

Гэткага паляпшэньня насеньня дабіліся, выбіраючы праз колькі гадоў с простага жыта найлепшые каласы, а з іх найбуйнейшые зерняты. С пасеянага кавалку выбранымі зернятамі зноў зьбіралі найлепшые каласы і найбуйнейшае зерне і гэтым засевалі і т. д. Такі спсаб паляпшэньня насеньня завецца сэлекціей.

Сэлекція жыта робіцца і у дварэ Самуелеве гр. Чапскаго.

Сэлекція мейсцовага аўса ўжо гадоў 10, як вядзецца у дварэ Падгорцы Слуцкаго павету п. Яна Аколава.

Апрача таго п. Аколаў сеяў на пробу жыта Данькаўскае і тутэйшае; Данькаўскае—з аднэй дзесяцціны дало 90 пудоў умалоту, а тутэйшае—105 п. (лета было дажджлівае).

З гэтаго відаць, што ў нас трэба налегаць на сэлекцію простага, мейсцовага жыта.

З Ігнатыч п. Вільгэльма Ельскаго было на выстаўцэ шмат розных цікаўных гатункаў збожа.

Тугановічская пробная станція мела на выстаўцэ 60 гатункаў ячменю і аўса і 34 гатункі бульбы.

Гэту ўсю калекцію станція афяравала ў гаспадарскі музэй "Сахі".

П. Ян Аколаў таксама перэдаў сваю калекцію „Сасе".

Усе гэтые цікаўные зборы можна агледаць у Рэдакціі „Сахі".

На выстаўцэ былі развешаны плакаты „Сахі" па розным часьцям сельскай гаспадаркі.

**А. У.**

# Конскі зуб.

Конскі зуб—гэта амэрыканская кукуруза; яна ў нашым клімаце ня можэ расьпець, а сеіцца толькі на корм для скаціны. Названьне „конскі зуб" расьліна гэта атрымала дзеля таго, што зерне сваей хвормай прыпамінае праўдзівы (натуральны) конскі зуб.

Праз апошніе два гады я сеяў конскі зуб для кароў, і практыка мяне навучыла, што карысьць з яго немалая і варта яго сеяць усюды, дзе вядзецца млечная гаспадарка.

Праз усю восень можна мець многа і добрага корму для кароў, ад каторага млека ў кароў прыбывае і то злашча ў такі час, як восень, калі цэны на млека бываюць высокіе.

Конскі зуб вельмі сакавіты: калі раскусіць цыбук яго, то сок такі салодкі, як цукар. Конскі зуб вырастае аршыналў 4—5 вышынёй, абы толькі акуратна выгнаіць і вырабіць поле пад яго і акуратна дагледзіць у часе росту, злашча ў пачатку лета.

Кавалак бульбянішча, чы ячнішча, бліжэй каля дому, навозіцца асянчуком і заворываецца на зіму. Вясной скародзіцца і мешаецца. У пачатку Мая зноў скародзіцца і другі раз мешаецца. Забаранаваўшы мешань, у першай палове Мая ганяюцца градкі і садзіцца конскі зуб. Градкі ганяць трэба вузейшые, чым на бульбу: на мейсцы дзьвёх градак на бульбу—робяцца тры градкі на конскі зуб. Садзіць не ў градкі, а ў баразёнкі, так сама гусьцей як бульбу: гдзе сядзе дзьве бульбы, то на тым мейсцы садзіцца тры каліВы конскага зубу. Перад саджэньням трэба лічыцца с пагодай. Калі сушы німа і земля вільготная, то насеньне зубу мочыцца, каб пусьціло храсты, а тады садзіцца.

Калі ж на дварэ суш і земля сухая, то садзіцца насеньне такое, як яно купляецца, бо пасадзіўшы пад суш і ў сухую зямлю—насеньне с храсткамі—змарнуецца.

Пасадзіўшы, зараз-жэ перэвярнуўшы барану, праехаць у поперак, каб насеньне закрыць; а ешчэ лепш—ісьці ў сьлед за работнікамі, каторые садзюць і граблямі засыпаць. Праз тыдзень, калі трава пакажэцца, перэцягнуць 1—2 разы бараной. Так сама можна перэцягнуць бараной, калі ужо зуб трохі падымецца, а трава на яго нападзе. Зубу, гэта не зашкодзе, а трава многа выгубіцца, дык не мала зменшыцца рабочых рук пры поліве.

Як зуб падрасьце на пядзю, то трэба яго абсыпнікам мелінька абагнаць і паставіць 1—2 бабы, каб засыпаные пяском калівы усьлед пападымалі і на самых вярхох градак парвалі траву. Праз тыдні два абганяецца другі раз, а потым і трэйці, так сама, як бульбу.

У восень, як скончыцца зялёная паша ў полі, зуб жнецца па трохі і даецца каровам. Як пачнуцца прымарозкі, жнецца ўвесь астаўшыся зуб і растаўляецца пад стрэхамі каля сьцен.

**А. В.**

# Новая расьліна.

## Каўказкі Жывакост.

### Летні корм для сьвіньнеу.

Жывакост каўказкі, як паказывае само яго названьне, расьце сам па сабе на Каўказе па нізкіх мейсцах.

Ешчэ ў мінулым сталецьцю за граніцай рабілі пробы с каўказкім жывакостам, але на гэтые пробы загранічные гаспадары мала тады зьвярнулі ўвагі; зацікавіліся жывакостам толькі больш агароднікі, каторые не пакінулі рабіць над нім дальш пробы і культуру каўказкага жывакосту давялі да таго, што стаўся ён саўсім прыдатнай расьлінай для мейсцовых кліматычных варункаў.

Жывакост каўказкі—расьліна балотная; вымагае, значыцца, грунту вільготнаго, на каторым найлепей і найбуйней расьце; але надаецца ён і можна яго разводзіць і на ўселякай зямлі, апрача пустога, сухога і пешчанага грунтаў.

Жывакост—расьліна вытрывалая і дасканальна перазімовывае ў нашым клімаце. Пры акуратным даглёдзе—раз пасаджэны—на адным і тым самым мейсцы можэ расьці гадоў 20—30 і абрэзаць яго т. е. зьбіраць з яго пашу для сьвіньнеў можна разоў 4—5 праз лета.

Жывакост не баіцца ценю, дык мейсца для яго ня трудна знайсьці ў сябе кожнаму—чы то большаму, чы меншаму—гаспадару.

Хто мае, напрыклад, садок, добра ведае, што пад дрэвамі—ў цяні не дае карысьці ня толькі ніякая збажына, чы агародніна, але нават ня хочэ расьці і трава. Тым часам для жывакосту каўказкага гэткае мейсцэ—самае падхадзячае.

Так сама амаль ня ў кожнага гаспадара нойдзецца кавалачак макраватай сенажаткі, с каторай сена саўсім мала зьбіраецца, а і тое—мала чаго варта; жывакост-жэ на такім мейсцы расьце добра.

Як жэ брацца да гэтага, што трэба зрабіць, каб завесьці ў сябе каўказкі жывакост?

Выбраўшы кавалак грунту ў садзе, чы на сенажаці, трэба яго глыбакавата перэараць, а ешчэ лепш перэкапаць рыдлёўкай на адзін штых, і добра выгнаіўшы, акуратна выраўнаваць. Пасьля значнікам, чы шнурам вызначыць тые пунхты, дзе прыдзецца садзіць жывакост. Радок ад радка і саджанка ад саджанкі павінны быць на дзевяць вяршкоў; кусьцікі жывакосту будуць, зна-

чыцца, пасаджэны як раз у квадрат—9 на 9 вяршкоў. Мейсцы для кожнай саджанкі расьліны сьперша значым колікамі, або і зразу выкопываем ямку. У гэтые ямкі садзім жывакост так, каб на адзін вяршок таўсьціні прыкрыць яго зямлёй. Гэтак разсадзіўшы, прытоптываем зьверху зямлю; або—калі большы абшар—то можна прайсьці вальцам.

Цяпер трэба толькі пільнавацца, каб земля зьверху была не заскарупеўшы, і калі пакажэцца трава—зьніштожываць яе. У скорасьці пачне усходзіць жывакост, лісты яго хутка разрастаюцца і тады ўжо ён сам падбівае пад сябе траву.

Калі жывакост пасадзім вясной, то ўжо с першага году, як толькі ён разрасьцецца, ісподніе лісьці—што пры самай зямлі—можна абрэзаць на корм сьвіньням, пакідаючы маладзенькіе лісточкі, каторые у скорасьці разрастаюцца і тады ўжо саўсім заглушываюць уселякую траву. Праз тыдні 2—3 пасьля першай абрэзкі лістоў, пара будзе брацца да другой; цяпер ужо можна абрэзаць усе лісты, каторые трымаюцца бліжэй зямлі. Больш абрэзаць у гэтым першым гаду ўжо нельга.

На другі год каўказкі жывакост будзе расьці—як мае быць і праз усё лета можна яго абрэзываць разоў 4—5; а пасьля—ў восень, каб падлепшыць засаджэны кавалак зямлі, радочкі жывакосту трэба прытрэсьці перагніўшым дробным гноям і гэтак пакінуць к налецьцю. Калі ў восень дзеля якой колечы прычыны нельга было падгноіць жывакосту, тады—на будучую вясну трэба яго паліць гнаёўкай. Апрача таго, пасьля зімы, як вядома, земля зьверху заўсёды заскарупее, дык вось гэтую верхнюю скурку трэба канешна узрушыць, каб даць доступ паветру.

Лісьці жывакосту даюцца сьвіньням або цэлымі, або рэзанамі. Ня трэба толькі гэтые лісьці сеч дробненька, бо шмат соку, а значыцца і пажывы зглуміцца. Хто мае ў сябе адпадкі ад млечнай гаспадаркі, як малако с пад цэнтрафугі, або сыраватку—даваць іх разам з жывакостам вельмі карысна.

Жывакост сьвіньні ядуць вельмі ласа, нават ахватней, чым канюшыну, чы якую мешанку, бо расьліна гэта мае далікатны смак і пах агуркоў, а да таго яна вельмі сакавіта.

Але вось дзеля вялікай сакавітасьці жывакосту, ён—сабраны—вельмі скора вяне, дык зьбіраць гэты корм найлепш с самога раньня—ешчэ за расой, або вечарам—па захадзе слонца і трымаць яго ў халаднаватым, заценяным мейсцы.

Асабліва карысна карміць жывакостам паросных сьвіньнеў, бо ад яго яны лішне не засыцеюць, у апаросіўшыхся-жэ мацёраў прыбывае ад жывакосту шмат малака, а гэта вельмі важна для парасятаў.

На колькі карысны і пажыўны корм з жывакосту паказывае нам склад яго.

У каўказкім жывакосьце на сто яго частак ёсьць:

вады — — — — 88,6 %
бялку — — — — 3,1—3,5 %

тлустасьці — — — 0,4 0/0
безазотавых частак — — 4,2 0/0
валакна — — — 2 0/0

Каб гэтага корму хапала праз усё лета—трэба на аднаго сталага кабана на пудоў 7—8—засадзіць 30 квадратовых сажнеў жывакосту.

Садзіць жывакост можна хоць у якую хацяпару, аднак, хочучы мець з яго як найбольшую карысьць ужо с пачатку другога году, трэба садзіць жывакост з вясны.

Засадзіўшы жывакост, трэба сьцерагчы ня толькі ад уселякай жывёлы, каторая можэ яго паглуміць, але нельга пушчаць туды нават кур, бо яны вельмі ласы на карэньні жывакосту, дык выдзіраюць іх з зямлі.

Інструктар гаспадаркі **Францісь Мартінец.**

Двор гр. Чапскай, Станькоў, Мінск. губ.

**Дапіска:** Каўказкі жывакост гады со тры таму, як ужо заведзены: у дварэ Лопухах Слуцк. павету п. Наркевіча-Іодкі; у два Ануфраво Слуцк. пав. п. Паўлоўскага і у дварэ Фаніполь Мінскаго пав. п. Тэйхмана.

---

**Ад Рэдакцііі**: Каўказкі жывакост знаны быў ня толькі за граніцай, як пішэ аўтар гэтай стацьці, але і ў нас на Беларусі.

Рэдакціі вядомы адзін двор у Лідзкім павеце, дзе каўказкі жывакост як пасаджэны будзе гадоў дваццаць. Пэўна нойдзецца і ешчэ ў нашым краю не адна такая гаспадарка, каторая ня прывыкла ехаць на загранічным хвасьце, а разам с поступам гаспадарскай навукі і практыкі—ідзе наперад.

Гэтых неколькі прыкладаў з жывакостам па вялікшых дварох не дае нам права рызыкаваць зразу большымі на яго накладамі, але мы павінны хоць на маленькіх кавалачках выпрабаваць самі гэту цікаўную і—хто ведае—можэ вельмі карысную расьліну.

Рэдакція „Сахі" ўжо мае ў сябе вазон с каўказкім жывакостам для паказу.

Рэдакція пастараецца дастаць і саджанак жывакосту і тады падзеліцца с сваімі падпішчыкамі.